# ПАГОНЯ

Чацвер
18 студзеня 2001 г.
№ 3 (499)
Кошт 75 рублёў


## Аляксандра Дубко адправілі ў Магілёў

**Аляксандр Лукашэнка прызначыў Аляксандра Дубко – старшыню калгаса «Азёры» Гарадзенскага раёна - намеснікам старшыні Магілёўскага аблвыканкама.**

Нагадаем, што напярэдадні старшынём Магілёўскага аблвыканкама прызначаны яшчэ адзін гарадзенскі гадаванец Барыс Батура.

## Пажар на «Азоце»

**11 студзеня адбыўся пажар у 9-м цэху водазабеспячэння гарадзенскага дзяржаўнага вытворчага аб'яднання «Азот».**

Як паведамілі ў прэс-службе Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, загарэлася градзірня - збудаванне для ахаладжвання вады вышынёй 18 метраў, якая знаходзілася на планавым прафілактычным рамонце. Пацярпелых няма, але агонь пашкодзіў абшыўку градзірні са шклопластыку на плошчы 370 квадратных метраў.

Прычынай здарэння стала парушэнне правілаў пажарнай бяспекі пры правядзенні агнявых працаў. Узгаранне абшыўкі адбылося ад іскры ў той момант, калі чацвёра рабочых праводзілі рамонтныя работы ў верхняй частцы градзірні з выкарыстаннем газавых разакоў.

Марат Гаравы

## Адшкадаванне для вязняў

**17 студзеня ў гарадзенскім гарвыканкаме пачнецца прыём заяваў на атрыманне грашовых кампенсацыяў ад грамадзянаў, якія пацярпелі ад нацыянал-сацыялісцкіх праследаў у гады другой сусветнай вайны.**

Гэта грамадзяне, чыя прымусовая праца выкарыстоўвалася ў Германіі, Аўстрыі і на акупаваных тэрыторыях (вязні канцлагераў і гета, вывезеныя на прымусовыя працы). Прыём будзе ажыццяўляцца штодзённа, апрача нядзеляў і святочных дзён, да 6 красавіка, па графіку і ў алфавітным парадку. Дакументы будуць прымаць члены спецыяльна створанай гарадской кваліфікацыйнай камісіі.

Аформіць заявы на кампенсацыю таксама маюць права нашчадкі пацярпелых грамадзянаў, вывезеных у Германію і Аўстрыю.

Ася Куніцкая

## Падаражэлі ваўчары

**У панядзелак увечары ў Гродне падвысіліся кошты на ваўчары ў Польшчу.** Для падарожжа на прыватных аўтобусах і бусах за ваўчар цяпер давядзецца аддаць 1400 рублёў. Дзяржаўны гарадзенскі аўтакамбінат прадае ваўчары па 1500 рублёў.

Ул.інф.

## Абрабавалі ксяндза

**Распачата крымінальная справа па факту крадзяжу ў доме ксяндза касцёла ў вёсцы Рэпля ў Ваўкавыскім раёне.**

Святар звярнуўся з заявай у РАУС 11 студзеня. Ён паведаміў, што ў перыяд з 31 снежня па 11 студзеня праз незачыненае акно з яго дома выкрадзены 970 нямецкіх марак, 920 даляраў ЗША і 1000 польскіх злотых.

Гэтыя грошы ксёндз прывёз з Варшавы ў якасці матэрыяльнай дапамогі для касцёла.

Ася Куніцкая




**19 і 20 студзеня** - воблачна, з праясненнямі, без ападкаў. На дарогах месцамі - галалёдзіца. Тэмпература паветра **19 і 20 студзеня** ўначы -2...-7; удзень -5. Пры праясненнях - да +12. Вецер усходні, паўночна-ўсходні.

# Ларыса Геніюш - Чалавек стагоддзя Гарадзеншчыны



Ларыса Геніюш каля сваёй хаты ў Зэльве

Сёння ПАГОНЯ падводзіць вынікі конкурсу «Чалавек стагоддзя Гарадзеншчыны». Праект распачаўся напачатку снежня мінулага года. За гэты час удзел у ім прыняло больш за сотню чалавек. Сярод іх - гісторыкі, культуролагі, журналісты, палітыкі. Усе падкрэслілі, што Гарадзеншчына надзвычай багатая на славутых людзей, і выбраць з іх самага выбітнага - няпроста.

Сярод названых адразу сталі першымі па колькасці ўзгадванняў два імені: Васіля Быкава і Ларысы Геніюш. Васіль Быкаў пачаў творчую дзейнасць у Гродне. Тут да яго прыйшла сусветная слава. Ён здолеў адлюстраваць беларускі погляд на жыццё. Васіль Быкаў паказаў беларусаў у кантэксце агульнай цывілізацыі. Ягоны творчы метад - паказаць бязмежнасць духу і волі чалавека ў любых, самых абмежаваных умовах існавання. Ягоныя творы, прысвечаныя трагічным падзеям вайны, скалечаным лёсам людзей, несправядлівасці і бязлітаснасці жыццёвых удараў, тым не менш, прасякнутыя высокім аптымізмам, бо даказваюць, што сам чалавек - гаспадар свайго жыцця.

Ларыса Геніюш вядомая не толькі творчымі дасягненнямі. Шчырасць, любоў да Радзімы абумовілі рэпрэсіі супраць яе, прывялі спачатку ў эміграцыю, а потым - у сталінскія лагеры. Але ні на хвіліну не страціла яна веры ў адраджэнне сапраўднай Беларусі, ні на хвіліну не паверыла і не захацела паказаць, што паверыла камуністычнай ідэі. Яе патрыятызм, прыродная шчырасць, нязломнасць выяўляліся не толькі ў яе вершах, а ў постаці, фігуры, поглядзе самой гэтай нязвыклай кабеты. Яна нарадзілася на Зэльвеншчыне, тут памерла. Праз усё жыццё адчувала непарыўную сувязь з маці-Беларуссю, з Гарадзенскім краем.

Выбраць сярод гэтых двух людзей Чалавека стагоддзя было няпроста таксама і рэдакцыі ПАГОНІ. Мы вырашылі, што ні ў творчым плане, ні ў грамадзянскай мужнасці Васіль Быкаў і Ларыса Геніюш не саступаюць адзін аднаму. Вызначальным момантам стала тое, што постаць Ларысы Геніюш дае ўсім нам веру. Веру і надзею, што, насуперак абставінам, мы можам жыць па-людску. Будаваць Беларусь, прынамсі, у душы. Стварацца уласны асяродак існавання. Жыць без хлусні, хцівасці, хамства. Закладаць падмурак, якім скарыстаюцца нашыя дзеці і ўнукі, калі надыйдзе час адрадзіць уласную краіну, сапраўдную Беларусь.

## «На зямлі беларускай мае алтары»

*Сёньня на пласе Родная Мова,*
*Вырваць жывую*
*належыць з агню,*
*Слова «кахаю» - слабое слова.*
*Мужнае слова - «абараню»!*

За што 10 лютага 1949 году Вярхоўны Суд БССР судзіў Ларысу Геніюш? Арышту папярэднічала афіцыйнае патрабаньне да Пражскага Граду 10 лютага 1948 году ад савецкіх уладаў аб выдачы трох ваенных злачынцаў. Двое зь іх - Ларыса і Янка Геніюшы. У частцы дакумента, датычнага Ларысы Геніюш, сьцьвярджалася, што «былая савецкая грамадзянка Ларыса Геніюш, актыўная ўдзельніца антысавецкіх нацыяналістычных арганізацыяў, была старшынёй Пражскага аддзела Беларускага Камітэту самапомачы, у сваіх артыкулах і вершах распаўсюджвае антысавецкія ідэі і паклёпнічае на Савецкі Саюз».

Але Ларыса Геніюш не была старшынёй аддзела Камітэту самапомачы, як і ніколі не зьяўлялася грамадзянкай БССР, паколькі выехала ў Прагу з Заходняй Беларусі, што да 1939 году ўваходзіла ў склад Польшчы.

Запярэчыць тады ўсемагутнаму Савецкаму Саюзу Чэхаславакія не захацела, і Геніюшы былі тэрмінова пазбаўленыя чэхаславацкага грамадзянства.

5 сакавіка 1948 году Ларысу і Янку Геніюшаў арыштавалі чэхаславацкія ворганы бясьпекі. Абласны суд у Празе пасправабаваў заступіцца за арыштаваных, ахарактарызаваўшы дзеяньні ўлады як неправамоцныя. Але словаў Фэміды тады ўжо ніхто ня слухаў.

Вярхоўны Суд БССР засудзіў абодвух на 25 гадоў зьняволеньня (лягеру).

Зь юрыдычнага гледзішча абвінавачваньне гучала непераканаўча нават на той час. Пад артыкул 66 тагачаснага Крымінальнага Кодэксу падпадала «оказание каким бы то ни было способом помощи той части международной буржуазии, которая, не признавая равноправия коммунистической системы, приходящей на смену капиталистической системе, стремится к её свержению».

Абвінавачваньне гучала тым болей бязглузда, што паводле гэтага артыкула, пакараньне магло быць у выглядзе пазбаўленьня грамадзянства БССР і выгнаньне вінаватых за межы СССР. Тым часам суддзя зачытаў прысуд гвалтоўна прывезеным з-за мяжы падсудным, якія ніколі не былі савецкімі грамадзянамі.

(Працяг - на стар. 5)

# У яе вершах – ані слова боязі

**Для майго пакалення, якое пачало набіраць жыццёвы тэмп разам з беларускай незалежнасцю, імя Ларысы Геніюш тады, у пачатку 90-х, гучала крыху незразумела. У школе толькі-толькі пачалі вывучаць яе творчасць, а з усіх бакоў сыпалася трыадзінае: Жанчына-Паэтка, Жанчына-Змагарка, Жанчына-Беларуска. Мы яе не ведалі. Памятаю, як было ніякавата, бо гэтыя магутныя словы пасля аўтаматычных паўтарэнняў ператвараліся ў пустыя гук. А адшуканыя ў бібліятэках успаміны тых, хто яе ведаў, не ўражвалі, бо былі нейкія рацыянальныя, занадта разумныя і прычасаныя.**

**Ідучы ў Саюз пісьменнікаў да Дануты Бічэль, я шчыра пабойваўся, што і яна падрыхтуецца, будзе казаць пра Геніюш з пазіцыі «пра вялікіх людзей - высокімі словамі». Аднак, Данута Янаўна перапрасіла адразу - «Будзе экспромт»:**

- Незвычайным у яе было тое, што яна ідэалізавала беларускі народ. Так, як і ўсе адраджэнцы нашыя, захаплялася ім. Стварыла вобраз несапраўднага, ненатуральнага народа. Але ўсё ж сама яна была не такая, як ён. Яна была іншая. Яна не жыла адным днём. Хаця ўсё гэта хавала пад нейкай маскай какецтва, такой жаноцкасці, адным словам, нейкай лёгкасці. А на самой справе яна ішла сваёй нейкай простай дарогай. У яе была гэтая дарога. Яна бачыла, вельмі яскрава, наперадзе незалежную Беларусь. На яе яна працавала. Яна сябе адчувала, па-мойму, хоць яе ніколі і не выбіралі, - прэзідэнткай Беларускай Народнай Рэспублікі. Яе дробныя ўчынкі, яна бегала па кухні, рабіла там нейкія печывы, яна ўсіх частавала, шмат гаварыла, так, як і ўсе жанчыны. Але стрыжань у яе быў адзін - гэта Беларусь, недзе наперадзе. Мэтанакіраванасць, па-мойму, была яе вызначальнай рысай.

*- Данута Янаўна, у радках Геніюш - ані слова боязі. Кожны сказ - як ультыматум тым, хто стаіць на яе дарозе. Няма гэтага агульнавядомага - лепей змаўчу, пакрычу пасля ў хаце, затое жыць лягчэй. Яна б'е проста ў твар.*

- Выпрабаванне лагерам - гэта была магутная загартоўка. Адступіш хоць адзін раз - і ты пакоцішся. Так што трымайся і будзь чалавекам, перш за ўсё перад сабою. І яна гэта ведала. Там, у лагерах была сканцэнтравана шматлікая інтэлігенцыя свету, пастаўлена ў жудасныя ўмовы, нялюдскія. І каб выжыць, ім трэба было быць загартаванымі і людскімі.

І потым, яна была, можа, адзіная ў нашай літаратуры паэтка, якая ўвесь час верыла ў Бога. Ідэя - «Бог - мой ратунак», «Бог мяне абароніць» - гэта ў яе было не толькі ў жыцці, але перш за ўсё - у паэзіі. Яна і пранесла гэтую тэму так прыгожа, так светла. Таму абсалютна слушна - з ворагамі яна сустракалася толькі ў адкрытым баі.

З таго, што я ведаю, - яна ніколі не рабіла інтрыг, бабскіх, тутэйшых. Мы ўвесь час адных другіх абгаворваем, - а ў яе гэтага ніколі не было.

(Працяг - на стар. 5)

# Сураў, Мацко... Хто наступны?

**Знакамітага гарадзенскага каваля, сябра Саюза мастакоў Беларусі Юрыя Мацко пазбаўляюць ільготнай аплаты за арэнду майстэрні, за тое, што ён бэнээфавец і вуніят.**

Мастак мае невялікую, плошчай трыццаць квадратных метраў, майстэрню ў непрыстасаваным памяшканні па вуліцы Савецкай у Гродне. Гэтая майстэрня была дадзеная яму гарвыканкамам яшчэ ў сярэдзіне 90-х гадоў. Калі ён прыйшоў туды упершыню, то ўбачыў гурбы смецця, бітага шкла і шпрыцоў. Сам зрабіў рамонт.

Да гэтага года памяшканне аплочвалася мастаком па стаўках, роўных арэнднай плаце за кватэру. Раней кожны год па хадайніцтве гарадзенскага саюза мастакоў гарвыканкам працягваў дамову арэнды. Але зараз Юрыю Мацку было адмоўлена у ільготнай аплаце на 2001 год. Цяпер яму давядзецца плаціць з разліку 2,7 даляра за адзін метр плошчы.



Юрась Мацко ў сваёй пакуль яшчэ «таннай» майстэрні

Разам з камунальнымі плацяжамі сума аплаты ўзрасце разоў у 20 і складзе каля ста тысяч рублёў. «Для мяне гэта азначае, што трое маіх дзяцей проста будуць менш есці, - кажа Юрый Мацко. - Гарвыканкам зрабіў мне такі арыгінальны навагодні падарунак».

Чаму гарадзенская ўлада так абыйшлася са спадаром Мацко? Ёй жа варта было б як найболей дапамагаць слаўтаму кавалю, вядомаму не толькі ў Гродне, але і за межамі сваёй краіны. Зусім нядаўна Юрый атрымаў дыплом лаўрэата фестываля «Архітэктура-2000», які праводзіў у Менску Саюз архітэктараў Беларусі. Гарадзенцы могуць пабачыць творы каваля, напрыклад, на даху пажарнай вежы - гэта вятранік у выглядзе пажарніка, які ўхапіў пеўня; на муры чыгуначнага вакзала - крыж у памяць паўстання К.Каліноўскага. Юрый Мацко рэстаўраваў рашотку на ўваходнай браме Фарнага касцёла ды інш. Дзякуючы ягоным работам старажытны цэнтр горада атрымаў натуральнае ўпрыгожанне з жалеза, вартае ўзросту і архітэктуры Гродна. З іншага боку, сам мастак адчувае ў майстэрні, размешчанай у цэнтры горада, уплыў старажытнай аўтэнтычнасці месца.

Прычына, паводле якой Юрыю Мацку было адмоўлена ў працягу ільготаў на 2001 год, знаходзіцца, хутчэй за ўсё, у палітычных і рэлігійных поглядах мастака. Неафіцыйна яму патлумачылі, што дзяржава не будзе даваць яму ільготы, паколькі ён не любіць гэтую дзяржаву. «Нелюбоў» заключаецца ў тым, што спадар Юрый з'яўляецца сябрам БНФ і вуніяцкай суполкі вернікаў.

- 20 снежня мы падалі ў гарадзенскі гарвыканкам хадайніцтва аб працягу ільготнай арэнды майстэрняў адносна ўсіх сябраў гарадской арганізацыі, - кажа старшыня праўлення абласной арганізацыі саюза мастакоў Сяргей Асапрылка. - Адмаўляюць толькі аднаму Юрыю Мацку, пакуль што неафіцыйна, але хутка чакаем і афіцыйнай адмовы. Юра можа стаць адзіным з 48 сябраў саюза мастакоў вобласці, якому не працягнуць ільготную арэнду. А.Лукашэнка заяўляе, што ў гэтым годзе павялічацца выдаткі на культуру. А ў Гродне, атрымваецца, усё наадварот.

Напрыканцы мінулага года Юрый Мацко меў тэлефонную размову з намеснікам гарвыканкама Яўгенам Жабруном. Апошні патлумачыў падвышэнне арэнднай платы тым, што ў бюджэце бракуе грошай. «Мацко паправіць гарадскі бюджэт», - жартуе каваль.

Трэба ўзгадаць, што год таму гарвыканкам гэтак жа «дапамог» мастаку Алесю Сураву. Аналагічны лёс у гэтым годзе, відаць, чакае мастака Зміцера Іваноўскага. Усе яны вылучаюцца яркай асабовасцю, свабодай творчасці, патрыятызмам. Менавіта гэта робіць іх непажаданымі асобамі ў вачах гарадзенскага начальства. «Я не разумею аднаго, - гаворыць спадар Мацко, - куды пойдуць працаваць тыя, хто сёння паскудзіць нармальным людзям жыццё, калі зменіцца ўлада?»

**Сяргей Самасей**

# Фронт рыхтуецца да палітычных зьменаў

**13 студзеня 2001 году адбыўся чарговы Соим БНФ «Адраджэньне». Першае сёлета паседжаньне Сойму было напоўненае аптымістычнымі прагнозамі на гэты год і прэзыдэнцкія выбары. Сяброў вітаў лідар Партыі Вінцук Вячорка.**

Прэзыдэнцкія выбары стануць рэальным шанцам на дэмакратычныя зьмены ў краіне. Вінцук Вячорка падкрэсьліў слушную тактыку КРДС і БНФ. «Галоўнае зараз - захаваць адзінства, улучыць у склад КРДС як мага больш дэмакратычных структураў і пачаць стварэньне дэмакратычных кааліцыяў на месцах. На сёньня гэта атрымалася, і гэта нашае вялікае дасягненьне».

Лідар партыі падкрэсьліў значнасьць рашэньня дэмакратычных партыяў, у тым ліку Партыі БНФ, адмовіцца ад вылучэньня адзіных кандыдатаў: «Гэты адказны крок дазволіў хутка звузіць кола прэтэндэнтаў на адзінага кандыдата, а таксама эфэктыўна нэйтралізаваць тых амбіцыйных лідараў партыяў, што сваім самавылучэньнем маглі б стварыць непажаданы інфармацыйна-палітычны шум».

- Нашае становішча ў кааліцыі мацуецца перадусім не на мінулых заслугах, а на здольнасьці сёньня цягнуць на сабе інтэлектуальную і тэхнічную працу, якая нас чакае наперадзе, - асобна зазначыў спадар Вячорка.

Кандыдат, якога падтрымае дэмакратычная кааліцыя, павінен быць вызначаны праз як мага шырэйшае пагадненьне. Ключавым момантам вызначэньня будзе Кангрэс дэмакратычных сілаў.

Спадар Хадыка ў сваім дакладзе акцэнтаваў увагу на асобе Лукашэнкі, адзначыўшы, што «маральны стан Лукашэнкі - выклік усяму грамадзтву, і пра гэта неабходна казаць, каб зруйнаваць ягоны вобраз, створаны падпарадкаванымі рэжыму СМІ».

У другой палове паседжаньня сябры Фронту разгледзелі практычныя кірункі працы перад выбарамі. З канкрэтнымі прапановамі выступілі Віктар Івашкевіч і Анатоль Фёдараў.

Была прынятая Заява Сойму БНФ «Адраджэньне» й Партыі БНФ.

# «Лукашэнка ня мае права быць кандыдатам у прэзыдэнты»

## Заява Сойму БНФ «Адраджэньне» й Партыі БНФ

**6 студзеня 2001 году без афіцыйнага абвяшчэньня выбараў А.Лукашэнка пачаў сваю прапагандовую кампанію ў якасьці кандыдата ў прэзыдэнты. Нават паводле лукашэнкаўскага антыдэмакратычнага заканадаўства, гэты ўчынак павінен быць асуджаны, а сам Лукашэнка пазбаўлены магчымасьці ўдзельнічаць ў прэзыдэнцкіх выбарах.**

За часы лукашэнкаўскага рэжыму ў Беларусі разбурана эканоміка, руйнуецца грамадзкая мараль, беларуская мова, культура й гістарычная памяць вынішчаюцца. Незалежнай беларускай дзяржаве пагражае інкарпарацыя ў Расею. Стабільнасьць і мір у Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе пад пагрозаю, таксама як дабрабыт, здароўе абсалютнай большасьці нашых грамадзянаў.

Пасьля абнародаваньня ў газэце «Наша Свабода» мэдычнага заключэньня аб стане псыхічнага здароўя А.Лукашэнкі грамадзтва мае ўсе падставы патрабаваць вочнай псыхіятрычнай экспэртызы гэтага чалавека, каб усьцерагчыся ад пагрозы яго дэструктыўнай дзейнасьці ў наступныя пяць гадоў.

**Ул. інф.**

# Свабода, самастойнасць, незалежнасць самі не прыйдуць. За іх трэба змагацца!

**Выбары ў Нацыянальны Сход Рэспублікі Беларусь яскрава паказалі, што большасць людзей, што падтрымалі Вызвольны Рух, байкатавалі галасаванне за кандыдатаў у так званую «палатку». А тым самым выказалі недавер існуючаму антынароднаму рэжыму і жаданне кардынальных зменаў у дзяржаве. Зразумеў гэта і выконваючы абавязкі прэзідэнта Аляксандр Лукашэнка. Страх апанаваў ім. Бо сёння ён судзіць людзей за праўду, а заўтра яго будуць судзіць за хлусню, за той развал, які ён стварыў за сем гадоў «мудрага кіравання».**

Масква, баючыся страціць сваю ўладу ў Беларусі, імкнецца завяршыць кадравае афармленне расейскай акупацыі і стварыць палітычныя ўмовы для здачы беларускай дзяржавы пад Расею. І першы «паспяховы» захад у гэтым накірунку зроблены. З 27 лістапада на Беларусі кіруе цалкам расейскі акупацыйны ўрад, які складаецца з расіянаў, іх генералаў і функцыянераў КГБ-ФСБ. Заканчваецца поўны захоп расіянамі беларускага войска, міліцыі і КГБ, завяршаецца разгром беларускага нацыянальнага школьніцтва, асветы, адукацыі і рэлігіі.

Наступным захадам па маскоўскаму сцэнару будуць прэзідэнцкія выбары. Але, пагадзіцеся, што адпаведна дзеючаму заканадаўству ніякіх рэальных прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі ў такіх умовах не будзе. Можа адбыцца толькі фальшывая выбарчая прафанацыя дзеля абгрунтавання і замацавання акупацыйнай палітыкі рукамі і нагамі саміх беларусаў. Улада ў Беларусі Масквой ужо захоплена. Засталося яе толькі легітымізаваць. Калі ж гэта не атрымаецца, Расея паспрабуе арганізаваць пераварот, хуткі захоп нацыянальнай маёмасці ды ліквідацыю Беларускай дзяржавы, ператварэнне яе ў «северо-западный край» з сучасным Мураўёвым-вешальнікам на чале.

Дзеля вынішчэння рэштак нацыянальнай свядомасці беларусаў супраць нас з боку расіянаў вядзецца таталітарная інфармацыйная вайна, вынікі якой носяць вельмі разбуральны характар.

Прэзідэнт беларускага народа, які будзе прапанаваны Беларускім Вызвольным Рухам, ліквідуе гэтую антыбеларускую палітыку і антынародную дзейнасць, забяспечыць волю, працу і будучыню беларускім людзям і ўсёй беларускай нацыі на сваёй, шчыра палітай потам і крывёю, зямлі. Мы будзем гаспадарамі ў сваім доме.

Разумейце і памятайце, што ў нашых руках - агонь Беларускай Праўды, Свабоды і Справядлівасці. Гістарычна перамагае той, у каго лепшая і вышэйшая ідэя. І не заўсёды параза палітычная ёсць параза гістарычная.

Наша сіла - у праўдзе, вытокі якой ляжаць у нашым гістарычным мінулым. За гэта, пакуль яшчэ не позна, трэба змагацца. Змагацца ўсімі дазволенымі срodкамі. Разам мы пераможам!

**Вячаслаў Шчыткавец, сябра Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі - БНФ**

# Туравец «дастаў» міліцыю

**У мінулую нядзелю сябра Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі - БНФ Віктар Туравец правёў несанкцыянаваны пікет у цэнтры Смаргоні. Ён трымаў шыльду, на якой з аднаго боку было напісана: «Ганьба такім міліцыянерам, як падпалкоўнік Мілінчук, які парушае правы простых грамадзянаў, дае лжэсведчанне суду, пракуратуры», а на другім баку - «Ганьба пракуратуры, якая не стаіць на баку Закона, не абараняе правы простых грамадзянаў, а абараняе такіх «мілінчукоў».**

А пачалася ўся гэтая гісторыя трэцяга верасня мінулага года. Тады ў цэнтры горада быў наладжаны мясцовымі фронтаўцамі адкрыты збор подпісаў у абарону незалежнасці Беларусі. Міліцыя затрымала і даставіла ў пастарунак Віктара Тураўца і Віктара Шоцю. У Віктара Тураўца падпалкоўнік Уладзімір Мілінчук адабраў шыльду, на якой быў такі тэкст: «Збор подпісаў у абарону незалежнасці Беларусі. Абарона Рэспублікі Беларусь - свяшчэнны абавязак грамадзян Рэспублікі Беларусь (Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, арт.57)». Пра гэта пісала ПАГОНЯ ў N34 ад 7 верасня 2000 года.

Пасля гэтага Віктар Туравец напісаў скаргі ў раённую, абласную і рэспубліканскую пракуратуры, абласное ўпраўленне ўнутраных справаў і МУС рэспублікі. Адусюль прыходзілі адказы, у якіх прызнаваўся факт, што адабраная шыльда знаходзіцца ў міліцыі і яе можна забраць. «Але ж я яе туды не сам занёс, - лічыў Віктар Туравец і працягваў пісаць скаргі.

Нарэшце, 20 снежня на кватэру да Віктара Тураўца зайшоў маёр міліцыі Юрый Коўшык, які прынёс шыльду. Такая хада падзеяў не магла задаволіць Віктара Тураўца, які настойваў, каб Уладзімір Мілінчук папрасіў у яго прабачэння, а дзеянні яго прызнаныя былі няправільнымі і на яго было накладзена спагнанне.

На другі дзень, 21 снежня, маёр Юрый Коўшык зноў з'явіўся на кватэры Віктара з двума панятымі. Ён моўчкі паклаў ля дзвярэй шыльду і выйшаў з кватэры.

Віктар Туравец не спыняе сваіх ранейшых патрабаванняў і пакідае за сабою права звярнуцца ў суд.

**Янка Крывіч**

# Навагодні здзек гарадзенскага водаканала

**Адзін з намінантаў Хіт-парада ПАГОНІ (N49, 2000 г.) - гарадзенскі водаканал - вырашыў у чарговы раз паздзекавацца з простых людзей, даслаўшы напярэдадні Новага года спажыўцам прыватнага сектару адмысловы падарунак - адразу два квіткі да ўплаты за спажыванне халоднай вады. Прычым, кошт на другім квітку перасягае кошт на першым больш як у сем разоў!**

Спажыўцы, якія атрымалі адначасова два квіткі (першы датаваны 15.12.2000 года, другі - 19.12.2000 года), абурыліся і пачалі неадкладна звяртацца па тлумачэнні ў абанентны аддзел водаканала. Там ім адказалі, што адзін з квіткоў памылковы. Зразумела, той, дзе меншы кошт. Дык на якую халеру трэба было дасылаць адразу два квіткі? Пpackазытаць нервы спажыўцам?

Гарадзенскі водаканал летась ужо вызначыўся сваім вынаходніцтвам новай формы аплаты за спажыванне жыхарамі халоднай вады на падставе «прапускной здольнасці трубы» **(гл. артыкул «Чыноўнікі з водаканала жыруюць за кошт пенсіянераў» у ПАГОНІ N39 ад 19 кастрычніка 2000 года).** А вось і новыя лічбы з вышэйзгаданых квіткоў (у кожнага са спажыўцоў яны розныя, мы падаем адпаведна пададзеных рэдакцыі). На квітку ад 15.12.2000 года за 17 кубаметраў спажытай вады трэба заплаціць разам з нейкай рэштай у 527.90 руб. (скуль ён узяўся?) за чацвёрты квартал 2000 года - 980 рублёў. На квітку ад 19.12.2000 года колькасць спажытай халоднай вады астранамічна павысілася да 271 кубаметра, за якія трэба ўжо заплаціць 7909 рублёў!



Натуральна, што гарадзенскі водаканал выправіў «памылку» на сваю карысць. Чыноўнікі гэтай установы не толькі плююць на скаргі спажыўцоў, але ігнаруюць заўвагі начальства ВА ЖКГ гарвыканкама. Колькі яшчэ яны будуць займацца бязглуздай эквілібрыстыкай надуманымі лічбамі ды здзекавацца з безабаронных людзей?!

**Сакрат Гарадзенскі**

# Для жанчын вакансіяў меней

**За 2000 год узровень беспрацоўя ў Гродне склаў 1,96 працэнта ад працаздольнага насельніцтва.**

Адпаведна звесткам гарадскога Цэнтра занятасці, узровень беспрацоўя за год знізіўся на 0,3 працэнта. Асноўную частку беспрацоўных складаюць звольненыя па асабістаму жаданню - трэць ад агульнай лічбы. 25 працэнтаў складаюць маладыя людзі, якія раней не працавалі, і 22 працэнты - тыя, што не працавалі доўгі тэрмін.

Як заўважыла начальніца аддзела рынку працы ды інфармацыйнай работы Вольга Стражнева, за апошнія гады ўзровень беспрацоўя ў нас кардынальна не змяніўся, застаецца прыкладна на ўзроўні двух працэнтаў. За год у Цэнтр занятасці ў пошуках сталай і часовай працы звярнулася 11,9 чалавек. На 1 студзеня на ўліку ў гарадзенскім Цэнтры занятасці - 3716 сталых беспрацоўных.

60 працэнтаў з іх - жанчыны, але ж запыт на жанчын ад працадаўцаў меней. Наогул, жанчынам цяжэй знайсці работу, хоць іх адукацыйны ўзровень вышэйшы. Так, з агульнага ліку вакансіяў Цэнтра занятасці толькі 36 працэнтаў заяўлена на жанчын. Сёння на рынку працы - шмат вакансіяў на спецыяльнасці інжынераў-праграмістаў, энергетыкаў, інжынераў-электрыкаў, будаўнікоў, станочнікаў, машыністаў кранаў, галоўных бухгалтараў, архітэктараў. Звыш патрэбы - юрыстаў, эканамістаў, педагогаў некаторых спецыялізацыяў, выхавальнікаў.

У той жа час, паводле нашых дадзеных, у горадзе ў дзіцячых садках не хапае выхавальніцаў. Толькі ў Кастрычніцкім раёна не хапае сем выхавальніцаў. І не дзіва. Каму ахвота працаваць за 15-20 тысяч рублёў? Жанчыны ўсё ахвотней перакваліфікоўваюцца на курсах Цэнтра занятасці на бухгалтарак і сакратарак з веданнем ПЭВМ, пэўныя рабочыя спецыяльнасці.

Гарадзенская вобласць у параўнанні з іншымі пяццю абласцямі - на чацвёртым месцы ў рэспубліцы па ўзроўню беспрацоўя. Лідыруюць Магілёўшчына і Гомельшчына. А найменшае беспрацоўе - у Берасцейскай вобласці.

**Алена Сіневіч**

# Лічыльнікі вады – рэч непрыбытковая

**Так вырашылі мастоўскія камунальшчыкі, бо рэальны расход вады значна меншы за норму.**

**Ужо на працягу двух месяцаў жыхарам дома N2 па праспекце Міра, дзе ўсталяваныя прыборы расходу вады, налічэнні пачалі праводзіць па расцэнках, як для звычайных жыхароў. Людзі вырашылі звярнуцца з заявою ў райвыканкам і распачалі збор подпісаў.**

**Язэп Палубятка**

# Каложа: варыянты ўратавання

## («Святая Каложа дачакалася нарэшце будаўнікоў» ПАГОНЯ N49 ад 28.12.2000 г.)

Прыемна чытаць, што Каложская царква, нарэшце, дачакалася рэканструкцыі.

Але высілкі ўмацавання схілу і падэшвы гары выглядаюць неяк несур'ёзна. Немагчыма спыніць вецер, ваду, мароз, сонца, гравітацыю... І каму патрэбна ўмацоўваць гару, гара будзе тады не гара.

У маіх развагах няма нейкай ідэалогіі, што патрэбная ўсім нам для аднаўлення нашай Святыні. Аднак, некаторыя развагі для роздуму маю:

1. Пакінуць парэшткі храма на адвечным месцы. Гэты спосаб, як піша Алена Сіневіч, прымушае «думаць пра трагічны лёс храма». У дадатак - немагчымасць аднавіць храм у першасным выглядзе, дабудаваць разбураную частку мура храма, выкласці каменнае скляпенне, купал.

2. Спроба перанесці парэшткі храма на новае месца, метраў 30-40 у глыб берага, на новы падмурак. З інжынернага пункту гледжання, гэтая справа звышскладаная, але мажлівая. Хто будзе супраць? Магчыма, архітэктары: «изменится основной визуальный элемент, соподчиняющий окружающую архитектурную среду». Магчыма, гісторыкі, археолагі, рэстаўратары...

Тут самы час зазірнуць у кнігу І.Пруцына, Б.Рымашэўскага, В.Барусевіча «Архитектурно-историческая среда» (Москва, Стройиздат, 1990 год). У главе 15 «Передвижка и перенос памятников» чытаем: «...Передвижка и перенос памятников с места их постоянного нахождения осуществляется в тех случаях, когда эта мера становится единственным средством их защиты от разрушения или уничтожения. Передвижка или перенос памятников в свете классических реставрационных критериев не могут быть отнесены к консервации, ибо это явно противоречит принципу сохранения памятника в его естественной или исторической среде. Тем не менее, в сфере охраны памятников такие меры применяются, если они диктуются обоснованными градостроительными или реставрационными требованиями, или техническими условиями, либо если возникают иные непреодолимые трудности, связанные с сохранением объекта. ...Заново смонтированный памятник, несмотря на все старания, многое теряет, особенно в смысле исторически конструктивной ценности, хотя сам процесс повторного монтажа может даже способствовать обновлению и укреплению его структуры...».

3. Не дакранацца да парэшткаў храма, але непадалёк пабудаваць дакладную копію Каложы, каб была напамінам пра нашу равесніцу «Нотрдам».

Некалі давядзецца зрабіць выбар: па якому шляху пайсці. Першы шлях - самы лёгкі. Другі - самы складаны, гэты шлях запатрабуе знайсці месца пад новыя падмуркі. Неабходна будзе пракласці бетонныя падмуркі рэйкавых пуцей, перасунуць незамкнутыя П-падобныя ацалелыя муры на новае месца, дабудаваць іх да першаснага выгляду.

Вось толькі некаторыя разлікі:
1 метр пагонны сцяны заважыць прыблізна 30 т/м
1,2 х 1 х 9,5(h) х 2400 кг/куб.м х 1,1 = 30096 кг/м
Памеры храма - 26,5 х 13,5 м
Агульная вага рэштак муроў - прыблізна 1500 тонаў!..
І гэта не кажучы пра грошы, праект, спецабсталяванне, майстроў і гэтак далей.

**З павагаю,
В.Анішчык,
будаўнік**

# Выпіў, закурыў, згарэў

**Галоўная адметнасць сённяшніх пажараў - у тым, што ў іх гінуць не інваліды і пенсіянеры, як раней, а працаздольныя людзі 35-50 гадоў, якія актыўна спажываюць алкаголь. Пра гэта абвесціў учара на прэсавай канферэнцыі ў Гродне начальнік Гарадзенскага абласнога ўпраўлення Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Беларусі Анатоль Гуз. У пажарах за 2000 год загінула 106 жыхароў вобласці, з іх - адно дзіця. Усяго было зафіксавана 1527 пажараў, поўныя матэрыяльныя страты ад якіх склалі 1,2 мільярда рублёў.**

- У параўнанні з 1999 годам, колькасць пажараў зменшылася на восем працэнтаў. Аднак выклікае занепакоенасць тое, што 50 працэнтаў усіх пажараў адбываецца з прычыны алкагольнага ап'янення, - адзначыў Анатоль Гуз.

Гарадзенскае абласное ўпраўленне Міністэрства па надзвычайных справах актыўна працуе у справе папярэджання пажараў. На працягу апошніх шасці гадоў колькасць пажараў у вобласці застаецца стабільнай. Абласным выканаўчым камітэтам прынята адпаведная праграма дзеянняў да 2005 года. Са студзеня да сакавіка 2001 года ў дзеянні - аперацыя «Быт», скіраваная на прафілактычную працу сярод адзінокіх людзей, інвалідаў, шматдзетных сем'яў і алкаголікаў.

Адпаведна словам Анатоля Гуза, ягонаму ведамству даводзіцца не толькі гасіць пажары, але і пісаць лісты. За мінулы год «выратавальнікі» напісалі каля паўтары тысячы лістоў тым грамадзянам, якія забыліся на існаванне сваіх бацькоў.

**Павал Мажэйка**

# А маці пайшла да каханка...

**З пачатку новага года на Гарадзеншчыне загінула ў пажарах ужо 10 чалавек. Як паведамілі ПАГОНІ ў абласным упраўленні Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, такой статыстыкі ў вобласці раней не было.**

Так, 10 студзеня ў вёсцы Стрыеўка Гарадзенскага раёна ў пажары згарэлі два хлапчукі двух і чатырох гадоў.

Званок ў пажарную частку паступіў у 23.49. Пажарныя прыехалі аператыўна, але выратаваць дзяцей не ўдалося.

Маці хлопцаў пайшла ў гэты час да каханка, у суседнюю вёску. Дзеці засталіся адныя. Калі ім стала халадно - адчынілі печку і ад распаленых вуглёў загарэлася хата.

Маці - жанчына 1968 г.н. нарадзіла ўсяго восем дзетак. Двух, што жылі разам з ёю, згарэлі ў агні, а шасцёра гадаваліся ў дзіцячых дамах.

**Павал Мажэйка**

# Малочная пяцігодка

**Старшыням сельсаветаў вобласці даведзены план закупкі малака да 2005 года ў насельніцтва.**

Вось што лічыць на гэты конт старшыня Зарудаўскага сельсавета Галіна Дзенісевіч:

- Штогод колькасць жывёлы ў асабістых гаспадарках скарачаецца, а план па закупу малака да 2005 года ўзрастае. Чым будзем выконваць, - не ведаю. Цяжэй стала і з нарыхтоўкай кармоў, забеспячэннем сялянаў зернем. Дый вельмі ўжо танна цэніцца праца вяскоўцаў. Лічыце самі: за літр малака мы атрымліваем 86 рублёў, у той час як літр вады каштуе больш як 200 рублёў.

**М.Карпейчык**

# Асятрамі гандлююць у Азёрах

**Незвычайны, для беларускіх крамаў, від рыбы з'явіўся ў звера-гаспадарцы вёскі Азёры Гарадзенскага раёна.**

Новы від, волжскі асетр, быў завезены ў Гарадзенскі раён з Ясна-горска Смаленскай вобласці.

Першая эксперыментальная партыя волжскага асетра вагою 400 кілаграмаў, як нам паведамілі ў зверагаспадарцы, прызначаная для продажу. Мэта - вывучыць попыт жыхароў Беларусі на гэты гатунак рыбы.

Калі справа пойдзе ўдала, кіраўніцтва зверагаспадаркі плануе развядзенне волжскага асетра.

Сёння гаспадарка займаецца, у асноўным, гадоўляй норкі. Не так даўно з'явіліся і чатыры пары рысяў.

**Павал Мажэйка**

# Няма працы - чытай газетку

**Так мяркуе генеральны дырэктар ААТ «Мастыдрэў» Віктар Буры.**

Рабочыя на прадпрыемстве маюць нізкія заробкі і прастойваюць цэлыя змены. З гэтага тыдня аб'яднанне перайшло на чатырохдзённы рэжым працы з-за адсутнасці фінансаў на закуп сыравіны.

Каб хоць неяк суцешыць і супакоіць рабочых на «Мастыдрэў», распачалі выдаваць газету «Мостовский деревообработчик» (вядома, на расейскай мове), дзе можна прачытаць толькі ўхвалу адміністрацыі ды віншаванні. Газету рыхтуюць двое супрацоўнікаў рэдакцыі раённай газеты «Зара над Нёманам».

У самога Віктара Бурага шмат прыемнага, і чытаць газету яму няма калі. Напярэдадні Новага года ён закончыў будаўніцтва ўласнага катэджа, а на пачатку бягучага года з'ехаў у чарговую замежную камандзіроўку.

**М.Карпейчык**

**P.S.: Калі нумар рыхтаваўся да друку, стала вядома, што паездка ў Кёльн у спадара Бурага сарвалася. Праўда, на момант падпісання нумара ў друк, камандзіровачныя ў касу вернутыя яшчэ не былі**



# Апэрацыя «Прусакі»

Яшчэ й цяпер у зімовую раніцу, у тыя колькі хвілінаў сьцішанага йснаваньня паміж явою й сном, я магу зьнячэўку ўсьцешана падумаць: перад Калядамі паеду да Бабулі.

Так мы называлі яе між сабою ў гаворках, у лістох і ў тэлефонных перамовах - зь любасьцю, а таксама (уважаючы на «товарища майора») з асьцярогаю. Зрэшты, маркую, «товарищ майор» цудоўна ведаў, што Бабуля - гэта Ларыса Антонаўна Геніюш.

Мо калі-небудзь я напішу пра ўсё гэта больш падрабязна. Пра тое, як мы зь Сяржуком Сокалавым грэліся пасьля марознае дарогі ля печкі, і Бабуля, што кагадзе ўзрадавана называла нас «сакалянятамі і арлянятамі», раптам нядобра бліснула вачыма. «А хто вас, хлопчыкі, да мяне прыслаў?». Напішу пра бандэрольκі зь лекамі для ейнага хворага сэрца, якія па два месяцы йшлі з Наваполацку ў Зэльву. Пра тое, як пасадзіўшы нас за шчодры стол, яна падымала кілішак са сваім улюбёным цытрынавым лікёрам і, зьвяртаючыся непасрэдна на электраразэткі, казала: «Выпьем за нашего дорогого Леонида Ильича!». Пра тое, як праз колькі хвілінаў пасьля прыезду гасьцей у хаце неадменна зьяўлялася ўвішная мэдсястрычка, якая рабіла Ларысе Антонаўне ўколы тых самых (дай Бог!) лекаў і якую ў гэты дзень ужо марна чакалі ўсе астатнія зэльвенскія хворыя, бо мэдсястрычка добра разумела, які адказны ўчастак работы даручылі ёй таварышы.

Калі-небудзь я, відаць, напішу, як зьневажалі яе зэльвенскія настаўнікі. Як яна дасылала лісты Машэраву і якія атрымлівала адказы. Як угаворвалі яе прымаць савецкае грамадзянства, а яна ўпарта хацела заставацца грамадзянкаю Беларускае Народнае Рэспублікі. Як, пахаваўшы мужа, яна жыла са сваім сабачкам Жуком у абторканай мікрафонамі і абкружанай сьцяной падазронасьці й нянавісьці хаце. «Ні адзін народ так не прыніжаў сваіх паэтаў, сваіх жанчын», - напісала яна ва ўспамінах.

Калі-небудзь я распавяду, кім была яна для нас у тыя гады.

Сёньня ж найперш прыгадваецца іншае: складзеныя на грудзях васковыя рукі, увачавідкі сьсівелы ад гора Жук ля труны з гаспадыняю, твары Зянона Пазьняка, мастака Яўгена Куліка, гісторыка Міхася Чарняўскага, які за год да гэтага, шмат чым рызыкуючы, вывез з Зэльвы Бабуліну «Споведзь», што цяпер друкуе часопіс «Маладосць»...

У краіне незалежнай, дэмакратычнай і культурнай разьвітаньне з адной з найталенавіцейшых яе паэтак сталася б днямі народнага смутку. У нас, на Беларусі, гэтая журботная падзея прайшла непрыкметна, бо амаль ніхто проста ня ведаў ні пра паэтку, ні пра яе сьмерць, а калі б і ведаў, дык большасьці ўсё адно было б «да ліхтара». Ну, а што тычыцца беларускай інтэлігенцыі, дык яе ў тыя красавіцкія і, дарэчы, выхадныя дні апанавала пошасьць раптоўных хваробаў, сумеры якой можна параўнаць хіба што з колькасьцю тэрміновых камандзіровак, маршруты якіх пралеглі дужа далёка ад Зэльвы.

Тым часам там, дзе трэба, выпісвалі камандзіроўкі менавіта ў Зэльву. І ўсё-ткі на кожнага, хто прыехаў хаваць Паэтку, прыпала, здаецца, ня больш, чым па двое падсуседзяў. Далібог, гэта былі неблагія суадносіны, і няхай выбачаюць тыя, каго я не ўзгадаю.

`З Наваполацку прыехаў інжынер Вінцэсь Мудроў, зь Менску - архэолягі Ігар Чарняўскі й Валеры Шаблюк, а таксама дырэктар акадэмічнага Музэю старажытнабеларускае культуры Вольга Церашчатава з каляжанкамі. Вянок ад Саюзу пісьменьнікаў Беларусі прывезьлі Вольга Іпатава й Адам Мальдзіс. З Горадні прыехала Данута Бічэль зь сябрамі, з Жлобіна - былы лягернік Мікола Канаш, якога мы зь Вінцэсем (даруйце нам, Мікола Імполевіч) прынялі ў цягніку за чалавека з канторы.

Сапраўдныя ж людзі ў цывільным прыбылі на машынах зь менскімі, гарадзенскімі й берасьцейскімі нумарамі. Яны нястомна шпацыравалі па вуліцы, хадзілі пад вокнамі, згуртаваным натоўпам стаялі падчас адпяваньня нябожчыцы ў царкве, перапісвалі зьвесткі аб прыежджых у зэльвенскім гатэльчыку. Ня ведаю, чаго ў падсуседзкіх позірках было болей: удзячнасьці да нас, «недобитых националистов», што неяк пацьвярджалі неабходнасьць іхнага йснаваньня й дапамагалі атрымліваць новыя званьні й ўзнагароды, гэтае ўдзячнасьці, або прыкрасьці, што «главная националистка» і тут нашкодзіла: памерла акурат так, каб у іх прапалі выхадныя.

Далікатнасьць падсуседзяў ня ведала межаў. Калі сын Ларысы Антонаўны, беластоцкі літаратар Юрка Геніюш прыцішана чытаў мне зь сябрамі на ганку свой верш «Чаму я чорны, а мама?», двое ў цывільным падышлі да яго амаль усутыч і сталі за плячыма. Хацелі закруціць «выкормышу» рукі й кінуць у варанок? У аднаго зь іхных калегаў, нястомнага фатографа з партрэтным аб'ектывам, Вольга Іпатава запыталася, які орган друку ён прадстаўляе, і той замест адказу шчоўкнуў і яе.

Цікава, як называлася ў іх тая апэрацыя? «Крыж»? Ці мо якая-небудзь «Незабудка»? Ці «Прусакі», як назваў бы яе я сам? Але як бы яна ні называлася, увесь плян ейным кіраўнікам выканаць не ўдалося: спробы ўгаварыць ці змусіць везьці труну й вялікі драўляны крыж на машыне былі марныя. Увесь нябліжкі шлях да зэльвенскіх могілкаў труну несьлі на руках. Сьледам ішла ўся Зэльва. Бел-чырвона-белых сьцягоў не было. Да іх мы тады яшчэ не дарасьлі.

Над сьвежаю магілай я прачытаў напісаны на сьмерць верш Сяржука Сокалава, які яшчэ не пісаў песень і ня меў у прозьвішчы ваярскага прыдомку, але Воюшам ужо быў.

**Гучала лера**
**мілагучным ранкам,**
**Каб сьпевам вольнай**
**Бацькаўшчыны стаць,**
**Каб Вашы песьні**
**вечная Зэльвянка**
**Магла вякамі голасна пляяць.**

**Нясьмелы вецер**
**сьлёзы нам астудзіць,**
**І зубы сьцяць**
**шчэ прыйдзецца ня раз,**
**Каб голасна сказаць**
**на поўны грудзі**
**Над памяцью ня мае ўлады час.**

**Пасьля нягод, чужыны,**
**ператрусак,**
**Пасьля таго,**
**пра што маўчаць гады,**
**Вы здолелі між іншых беларусак**
**Застацца Беларускай**
**назаўжды.**

**Уладзімер Арлоў**

# Постаць Ларысы Геніюш - знакавая

**Сваімі ўспамінамі пра сустрэчы з Ларысай Геніюш дзеліцца загадчык кафедры беларускай культуры Гарадзенскага універсітэта, прафесар Аляксей Пяткевіч.**

- Перш за ўсё яна была асобай моцнага духу. Яе не зламалі ў канцлагеры, не зламалі ганенні на інтэлігента-беларуса. Тым больш, як жанчына... Яна наадварот, умацавалася ў ролі стоіка, умацавала годнасць чалавечую і нацыянальную.

З усёй беларускай літаратуры яе вылучае нацыянальная непахіснасць. З тых, хто піша на беларускай мове, не ўсе маюць падставу лічыць сябе па-сапраўднаму нацыянальнымі пісьменнікамі. Для Ларысы Геніюш вялікае значэнне мела ідэя. Ідэя ў творчасці і ў жыцці. Гэта было арганічна, у ёй не было нічога паказнога, дэманстратыўнага.

Яна была простым чалавекам, любіла кампаніі, пажартаваць, яе цікавіла ўсё. Яна ўладжвала праблемы маладых. Памятаю, паспрыяла жаніцьбе маладой пары, яны потым прыходзілі да яе з дзвюма дзеткамі, было хораша на іх глядзець.

Яна ніколі не карысталася ніякай іншай мовай, акрамя сваёй. Яе муж, працуючы ўрачом у Зэльве, у 70-я гады пісаў рэцэпты на лекі на беларускай мове. Адзін такі рэцэпт у мяне захаваўся.

Яе заўжды вельмі абражала пагарда беларускасці. У пакоях віселі іконы, партрэты вядомых беларускіх дзеячаў, стаялі кнігі. Было адчуванне, што трапляеш у хату інтэлігента-беларуса.



Ларыса Геніюш

Яна так умела трымацца, знешне нават, незалежна, годна. Выпрацавалася арганічная манера размаўляць, крышку ўзняўшы падбародак. Гэтая пастава была засвоеная практыкай жыцця.

Асабліву даверлівасць да людзей праяўляла, калі хто гаварыў па-беларуску. На гэтым яна часта дапускала памылкі. Да яе падсылалі сваіх людзей спецслужбы, а яна магла раскрыць душу... З іншага боку, яна магла быць занадта падазронай да тых, хто шчыра хацеў пазнаёміцца, выяўляла празмерную насцярожанасць. Але калі ўжо ўведвала людзей, то была вельмі шчырая. Яна сябравала з Алесем Белакозам, Данутай Бічэль, Міколам Прашковічам, Міхасём Чарняўскім.

На яе юбілеі з'язджалася шмат народу. Я ніколі не бачыў яе засмучанай, маркотнай. Магчыма, у адзіноце яна перажывала, але на людзях была бадзёрая, жыццярадасная. Толькі зрэдку нешта прабівалася... Памятаю, тагачасны рэдактар «Мастацкай літаратуры» М.Дубянецкі прапанаваў ёй выдаць новую кніжку, пакуль ён тут. Я падтрымаў: «Ларыса Антонаўна, рабіце хутчэй!» Яна маўкліва ківала галавой, а позірк быў скіраваны некуды далёка-далёка. Яна разумела: што толку выпускаць кніжку ва ўмовах несвабоды, гэта будзе кніжка вымушаная. Яна перажывала сваю незапатрабаванасць.

Я люблю яе многія вершы: «Зубры», «Маці». Для яе маці - гэта і Беларусь, і мова, увесь комплекс каштоўнасцяў. «Беларусь - мой алтар», святыня, самая высокая каштоўнасць.

У шэрагу выбітных асобаў нашага стагоддзя Ларыса Геніюш займае асаблівае месца. Яе жыццё - гэта ўрок. Усе, хто з ёю сутыкаўся, не маглі не панесці ў душы нейкі водсвет.

**Запісаў**
**Сяргей Сноп**

# Там, далёка, дзе спачывае душа

**У 60-х гадах я шмат чуў ад сяброў пра Ларысу Геніюш. Гэта былі мае студэнцкія гады. Мы, як маглі, тады змагаліся за беларушчыну. Мяне пачалі цягаць у КГБ, выключаць з інстытута. Тады гэта было, як забойства ў пустыні. Вакол - абсалютна варожае асяродзьдзе, атупелае, сэрвільнае і запалоханае.**

Жыць тады ў Беларусі было невыносна. Ішла хваля шалёнай русіфікацыі. На кожным кроку які-небудзь рускі чыноўнік, ці нават буфетчыца, пачуўшы беларускую мову, стараліся, як кажуць, плюнуць у твар, зьняважыць, засьведчыць сваю адданасьць «парціі і правіцельству»: «На каком эта вы языке разгаварываеце?», «Пачэму не гаварыце па-чалавечэскі?» і г.д. Я ведаў, што ў часы генацыду, у 30-х, было горай. На беларускую філялёгію, літаратуру, педагогіку быў недабор студэнтаў. Баяліся паступаць. Калі хто нёс беларускую кніжку ў руцэ, то загалоўкам унутар, да сябе, каб ня бачылі, што беларуская. Нацыю вынішчалі.

Да 1978 года я ніколі ня бачыўся з Ларысай Геніюш. Але заўсёды адчуваў яе прысутнасьць. Гэта была нібы мая няўсьвядомленая душа: я ведаў, што яна ёсьць, і быў спакойны.

Напрыканцы 70-х я стаў адчуваць трывогу. У гэты час Міхась Чарняўскі кажа мне, што моцна захварэў муж Ларысы Антонаўны Янка Геніюш і што ёй пацяжэла. Я вырашыў паехаць у Зэльву да Ларысы Геніюш упершыню ў жыцьці.

Паколькі Ларыса Антонаўна мяне ніколі ня бачыла, ехаць трэба было з тым, каго яна хаця б трохі ведала. Нядаўна ў яе гасьцявала з групай аматараў беларушчыны мастацтвазнаўца Элеанора Вецер. Зь ёю я і паехаў.

Гэта было зімой. Калі прыехалі аўтобусам, ужо вечарэла, і нас ніхто ня бачыў.

- Хто там? - пачуўся звонкі голас.

- Свае, Ларыса Антонаўна, - кажу. - Пазьняк прыехаў.

Хвіліну было поўнае маўчаньне. Потым рашуча бразнула засаўка і дзьверы адчыніліся. На парозе стаяла пажылая жанчына з прыгожым абліччам і цёмна-сінімі вачыма ўважліва-падазрона ўзіралася на мяне. Я моўчкі ўсьміхаўся і глядзеў на Ларысу Антонаўну.

- Дык вось вы які, - нарэшце сказала яна прыемным голасам...

...Ні адна жанчына не зрабіла на мяне такога моцнага ўражаньня, як Ларыса Геніюш. У ёй было нешта магнэтычнае - упэўненае і здаровае. Я адчуваў у ёй блізкую прыроду. Калі мы размаўлялі, у нас усё супадала. Рэакцыя ў яе была шчырая і адкрытая. Ніякіх «другіх плянаў» (як кажуць у тэатры). Гаварылі душа з душой.

Ужо позна ноччу, калі ўсе спалі, яна шэптам расказвала мне пра Прагу, прэзыдэнта Захарку і паказвала дакументы Рады БНР.

- Во, ніхто не здагадваецца, што яны ў мяне ёсьць. Вазьмеце, хто ведае, тут ненадзейна.

Я тады не забраў іх. Па-першае, небясьпечна: за яе домам назіралі. Я таксама быў у «іх», што называецца, «у воку». Па-другое, нельга было злоўжываць яе шчырасьцю і эмацыйным станам. Ларыса Антонаўна, як і многія беларускія жанчыны жыла сэрцам. (І потым, аддаўшы дакументы, магла раздумацца і затрывожыцца). Яшчэ ёсьць час, думаў я, хай умацуецца ў сваім рашэньні.

Я памыліўся. Часу ўжо амаль не засталося. Дакладней, трохі было, але я думаў, што яго больш.

Неўзабаве памёр яе муж, Янка Пятровіч Геніюш. Разам з сябрамі я быў на пахаваньні цягам двух дзён, побач з Ларысай Антонаўнай.

Трэці раз я «сустрэўся» з Ларысай Геніюш, калі яна памерла. Цела яе ляжала ў труне спакойнае. У цішыні была яе душа. Я адчуваў яе прысутнасьць, але ня бачыў.

Я ўсьвядоміў, як недаравальна спазьніўся, і моўчкі, павольна, як у сьне, фатаграфаваў я дом безь яе: пакоі, сьцены гэтай яе старасьвецкай местачковай хаты з абразамі і фотаздымкамі ў рамачках, стол, за якім яна пісала, вакно, затулены белай фіранкай прыпечак, печ, дзе яна варыла страву, дзьверы, клямку, за якую браліся яе рукі, парог, які пераступіла навечна...

**Зянон Пазьняк**

